Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 88 (139). Вільня, Серада 30 Лістападу 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Вострабрамская 8—1.
(Wilno, ul. Ostrobramska 8- 1):

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Канчатак і пачатак.

28 г. лістападу закончыў сваё істнаваньне польскі парлямант — Сойм і Сэнат. Аб гэтым выданы п. прэзыдэнтам адпаведны дэкрэт. Вось гэта і ёсьць канчатак. Але-ж заўсёды і ўсюды здараецца так, што дзе адно канчаецца, там распачынаецца нешта іншае. У даным выпадку ў справе парляманту, калі закончыў жыцьцё Сойм і Сэнат папярэдніх выбараў 1922 году, павінны распачацца выбары паслоў і сэнатараў да новага Сойму і Сэнату. Перад нашым Беларускім Народам паўстала пытаньне найвялікшага значэньня, значэньня, проста такі рашаючага...

Як-жа мы яго вырашым?

У гэтакіх выпадках калі чалавек становіцца перад пытаньнем далейшай працы, дзейнасьці, падарожы ці змаганьня, звычайна ён прызадумваецца. Прыме горача справу да сэрца, шырэй зірне навакола і, штогалоўнае, узварушыць свой мозг, каб тэй сілай, якая знаходзіцца ў ім скантатаваць сваё палажэньне, сваю моц, магчымасьці, прылады і сродкі. Дык зробім гэта і мы!..

Калі мы возьмем пад развагу беларускую справу ў Польшчы, дык можам прыкмеціць адно, што з намі будуць лічыцца пастолькі, паскольні мы выявім сябе, як пэўны аўтарытэт, як значны дзейнік, як прыкметную сілу. Аб тым, што гэта неабходна нам, выказаўся на'т і жыдоўскі прадстаўнік знаны дзеяч Грунбаўм, які ў гутарцы з карэспандэнтам польскае газэты, сказаў, што дзе-дзе, а ў Польшчы, дык лічацца з сілаю. Чым больш сьмеласьці ў барацьбе, тым больш надзеі на перамогу. Калі Жыды ня будуць мець сілы і значэньня,—яны ня змогуць заваяваць сабе таго, што трэба. Вось як выказаўся жыдоўскі дзеяч! Гэтыя словы не мінаюць і нас, і мы павінны сказаць тое самае.

Але-ж мала таго, што мы скажам, нам трэба зрабіць нешта рэальнае! Нам трэба паказаць сваю сілу! І вось на гэта надходзіць час—выбары паслоў і сэнатараў.

Перадусім мы павінны, як кажуць, зарубіць сабе на носе, што мы павінны, пашоўшы на выбары, выбраць таго, хто зьяўляецца запраўды годным нашай увагі. Аб гэтым мы павінны былі дазнацца з тэй працы, якую выявілі нашыя дзеячы за папярэдні пэрыяд часу. Перадусім мы павінны ведаць, што толькі той, хто зьяўляецца запраўды Беларусам без усякае нявольніцкае псыхалёгіі, якая клоніць да выслугоўваньня перад чужынцамі, можа бараніць нашыя інтарэсы без усякай прадажнасьці. Ясна, што той, хто цяпер працуе пад наглядам і кіраўніцтвам чужых і варожых нам сілаў, тагды, калі-б і меў магчымасьць ухіліцца ад гэтае службы, будзе для ўласнае карысьці імкнуцца да выслугоўваньня. Гэта адно, а вось і другое.

Есьць і такія варожыя сілы, якія паўстаюць для таго, каб хітрасьцю, абманам і пустымі абяцанкамі выкарыстаць Беларусаў і пакіраваць іх лёс да нядолі, а народ да зьніштажэньня і да заглады. Так што як відзім — справа выбараў, рэч цяжкая. Выбары вымагаюць асаблівае ўвагі. Дык ці маем мы на гэта сілу і жаданьне?

У поўным значэньні гэтага пытаньня—дык не! Але-ж у вялікай частцы, дык але!.. Але, мы ўжо зрабілі вялікі поступ, значны крок наперад, мы ўжо заканчваем сваё адраджэньне і сталі ў сваей масе — Народам з выразным беларускім абліччам.

Нажаль, ёсьць і такія сярод нас, якія яшчэ ўсё блудзяць! Бо калі-б не было-б блуднікаў, дык ня было-б паўлюкевічаўшчыны ды ўмястоўшчыны. Не было-б тых штучных „зьездаў", якія арганізуюць Паўлюкевіч ды Умястоўскі. Хіба-ж кожнаму Беларусу добра ведама і зразумела, што яны працуюць, як найміты чужынцаў, працуюць для таго, каб трымаць наш Народ і на далей у цемры ды нядолі.

Раз і на заўсёды павінны мы выкінуць усякую лёгкавернасьць і ветраннасьць, ды нідзе і ніколі і ні ў якім выпадку не даваць абсалютна ніякага, ані спагаду ані падтрыманьня ўсім гэтакім авантурнікам. Мы павінны трымацца тых, якія стаяць на грунце нацыянальным, якія бароняць наш Народ ад усякіх нацыянальных уціскаў і сацыяльных несправядлівасьцяў, вядучы за гэта пасільную барацьбу і змаганьне.

**Скарга.**

## ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

X.

Як-бы ў адказ на француска-югаслявянскі прыяцельскі дагавор, Італія і Альбанія падпісалі дагавор аб саюзе. Гэтае здарэньне па сутнасьці ня вельмі значнае дало прычыны бачыць новую магчымасьць пачатку вайны на Балканах, толькі ўжо ў шырэйшым маштабе.

Справа ў тым, што так ці іначай, а сучасная мусалінаўская Італія выяўляе свае захопніцкія замеры адносна Югаславіі, аб праўдзівасьці гэтага найвыразьней гавора нова падпісаны дагавор з Альбаніяй. Альбанія маленькая дзяржава пры Адрыятыцкай затоцы, церав якую мая лучнасьць з Італіяй. З другога боку Альбанія мяжуецца з Югаславіяй да якое адносіцца варожа. І вось, сама па сабе Альбанія ня страшна Югаславіі, але-ж дзякуючы свайму суседзтву, дае магчымасьць Італіі, у выпадку вайны, напасьці на Югаславію з іншага боку (бо Італія мае і сваю ўласную мяжу з Югаславіяй).

Вышэй успамінаецца, шырэйшы маштаб балканскай вайны, а гэта азначае тое, што калі-б распачалася вайна Італіі а Югаславіяй, дык магчыма ім (а пераважна Югаславіі) прышлі-б на падмогу іншыя дзяржавы. Пры гэтым трэба ўспамянуць і тое, што да француска-югаславянскага дагавору зьявіла жаданьне прыстаць і Грэцыя, а паміма гэтага Югаславія мае палітычны кантакт і з Румыніяй ды Чэхаславакіяй.

Ці прышлі-б на па падмогу Югаславіі гэтыя яе прыяцелькі, ня ведама. Асабліва Румынія, якая цяпер перажывае ўнутранія трывогі, паўстаўшыя з прычыны ня выясьненай і нявырашанай сытуацыі каралеўскай улады. Як ужо ведама, дык на румынскім каралеўскім прастоле „засядае" шасьцігадовы кароль Міхал, ясна што за яго правяць апякуны. Яго-ж бацька Кароль у сваім часе пазбаўлены каралеўскага права зьяўляе жаданьне вярнуцца да ўлады над Румыніяй, але-ж гэтаму працівілася ўрадавая партыя на чале якой стаяў выдатны румынскі палітычны дзеяч Янель Братыяну. Братыяну зьяўляўся галоўным праціўнікам Кароля, а дзеля гэтага самага распачаў рэпрэсіі проці тых, хто жадаў, а знача і працаваў на карысьць павароту да ўлады Кароля. У сувязі з гэтым адбыўся нават судовы працэс над каралістам Мануілеску, які быў апраўданы. Адбыўся і іншы суд — суд над Братыяну, які быццам быў атручаны, а цераз гэта нядаўна і пашоў на новы сьвет. Пасьля сьмерці Братыяну ўнутраняя сытуацыя ў Румыніі завастрылася. Чакаюць новых падзеяў...

Вось як выглядае справа балканскага вулькану, які ў сваей мінуўшчыне ня раз паслужыў прычынай да крывавых міжнародавых расправаў.

Але-ж усе гэтыя балканскія справы неяк адыходзяць у цень дзякуючы новаму фактару непакою: дзякуючы польска-літоўскім спрэчкам.

Ад часу, калі Польшча захапіла Вільню, якую бальшавікі, як прадстаўнікі расейскае ўлады адступілі Літве, паміж Польшчаю і Літвою лічыцца ваенны стан. Гэтыя дзьве дзяржавы ня маюць паміж сабою нармальных зносінаў і вечна знаходзяць прычыны для новых і новых непаразуменьняў і канфліктаў. У папярэдніх часох непаразуменьне цягнулася дзякуючы, таму, што Літва жадала звароту сабе Вільні, якое Польшча і ня думала зьвяртаць. А вос апошнімі часамі, дык запраўды здараюцца такія праявы якія выклікаюць агульнае зьдзіўленьне і трывогу за спакой.

Справа ў тым, што ўвесь палітычны сьвет у польска-літоўскіх справах бачыць жаданьне Польшчы захапіць Літву і скасаваць яе самастойнае істнаваньне. Праўда, як урад, так і частка польскае прэсы пярэчыць гэтаму, але-ж справа выглядае так, што ніхто ня верыць гэтаму, бо кожны крок польскага ўраду ў адносінах да Літвы, дае зразуменьне і іншым дзяржавам аб нападках на Літву. Ці гэта праўда-падобна нельга ведаць, але-ж справа пакіравалася ня толькі на эўрапэйскі, але-ж і на агульна-сьвятовы форум. Польска-літоўскую спрэчку будзе разглядаць Ліга Нацыяў.

Трэба адзначыць што і Савецкі Саюз (Расея) так-сама патрывожана гэтым, бо нядаўна перадала Польшчы і Літве свае ноты ў якіх заклікае гэтыя дзяржавы вырашыць спрэчку без крывавай расправы, пры гэтым робіць увагу Польшчы, што ад яе залежыць больш як ад Літвы. Савецкі ўрад адзначае, што Літва ня можа распачаць вайны, а калі нешта падобнае здарыцца, дык ініцыятыва ў тым будзе выходзіць ад Польшчы. Вось чаму Савецкі ўрад усю адказнасьць за справу магчымага нарушэньня спакою пакладае на Польшчу.

Прычынай новай хвалі за лёсы пакою на

# Што дзеецца ў сьвеце?

### У Літве.

За апошнія дні ў Коўне адбываюцца паседжаньні камітэтаў усіх палітычных партыяў, дзе абгаварваюцца справы стварэньня новага нацыянальна-кааліцыйнага ўраду, але без сацыял-дэмакратаў і камуністых. Пад націскам зьбліжаных да сябе колаў прэм'ер Вальдэмарас стараецца паразумецца з апазыцыйнымі партыямі.

У сувязі з віленскаю канфэрэнцыяй марш. Пілсудскага, Вальдэмарас паслаў у Лігу Нацыяў аж дзьве ноты-скаргі. У іх вінаваціць ён Польшчу, што яна падтрымлівае грашамі літоўскіх эмігрантаў, арганізуе і падтрымлівае іх у барацьбе з істнуючым літоўскім урадам. Далей падкрэсьлівае, што Польшча мае аднесна Літвы агрэсыўныя (захопніцкія) замеры.

### Конкурс на... дзяржаўную пасаду.

У Празе (сталіца Чэхаславакіі) аб'яўлены конкурс на пасаду ката. Прэтэндэнтаў на гэтую „высокакультурную" пасаду ў „хрысьціянскай дзяржаве" набралася аж 59, між імі нават... былы прафэсар багаслоўя (вышэйшае навукі аб Богу).

Мусіць даходная пасада, калі і прафэсар захацеў мець тытул... ката.

### Бунт вязьняў у Злучаных Штатах.

У дзяржаўным вастрозе ў месьце Фольсом (правінцыя Каліфорнія ў Паўночнай Амэрыцы) болей як 1000 вязьняў зрабіла адчайную пробу ўцечкі, прычым двух дазорцаў і пяць вязьняў было забіта, а трох дазорцаў, 17 вязьняў, паліцэйскі афіцэр і сэкрэтар начальніка вастрогу ранены. Бунт успакоіў аддзел салдат з 500 чалавек і паліцыянты ўзброеныя кулямётамі.



# НАВІНЫ.

**— Канфэрэнцыя Б. С. С. у Сьвіры Сьвянцянскага павету.** 27 лістападу г. г. у м. Сьвіры, Сьвянцянскага павету адбылася павятовая канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу. Прысутных было 51 чалавек, якія выбралі з пасярод сябе павятовы камітэт Селсаюзу ў гэтакім складзе: гр. гр. Язэп Карэцкі, Флёр Ерафееў і Эліяш Буша.

**— Лекцыя ў Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры.** У нядзелю 4 сьнежня г. г. а гадз. 8-ай увечары, у памешканьні Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры, Вострабрамская вул. № 8 кв. 1 гр. П. Каруза прачытае лекцыю на тэму **„Псыхалёгія народаў"**. Уваход на лекцыю безплатны.

**— Далейшыя выступленьні Беларускага Народнага Тэатру.** Беларускі Народны Тэатр, Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў далейшай сваей працы на правінцыі мае выступіць са спэктаклямі 1, 2, 3, і 4 сьнежня г. г. у м. Глыбокім. З Глыбокага пакіруецца на Докшыцы, Буцлаў, Крывічы, Даўгінава, Куранец і Вялейку. Разумеецца ў гэтым маршруце могуць быць перамены.

**— Ксяндзы ня будуць пасламі.** Віленскі арцыбіскуп Яблжыкоўскі надовячы выдаў распараджэньне, забараняючае ўсім ксяндзом віленскае архідыяцэзіі кандыдаваць у паслы пры выбарах у наступны Сойм і Сэнат. Забарона гэтая выклікана, быццам, нястачаю ксяндзоў і патрэбаю вясьці інтэнсыўную пастырскую працу.

**— Годна ўвагі.** Беларускія Сялянскія Інстытуцыі дзякуючы таму, што Паўлюкевіч падсуседзіўся, праз нейкі час мясьціліся ў адным доме толькі паверхам вышэй, ад паўлюкевічаўскай-дэфэнзывы. Гэта і змусіла перайсьці на новае памешканьне.

Нашаму супрацоўніку здарылася зайсьці ў краму да Жыда, які пазнаўшы ў ім Беларуса запытаўся аб зьезьдзе. Разумеецца, што Сялянскі Саюз ніякага зьезду ў Вільні не ладзіць, дык супрацоўнік запярэчыў гэтаму. Таглы высьнілася, што гутарка ідзе аб паўлюкевічаўшчыне.

І вось што запраўды годна ўвагі!... Жыд, які мае невялічкую крамку разумее, што сабою зьяўляе асоба Паўлюкевіча і яго справа. Зазначыўшы паўлюковічаўскае палянафільства як шкоднае зьявішча для беларускай справы, Жыд адзначыў, што і ў іх грамадзянстве ёсьць такія-ж самыя прадажнікі — ў палітычнай групы, якая носіць назоў — Ортодоксы і „працуе" ў Галіччыне.

Калі Жыды разумеюць Паўлюкевіча дасканальна, дык і Беларусы тым болей павінны ўясьніць сабе гэта.

**— Прыяцельская качка „Kurjera Wileńskiego".** „Кур'ер Віленскі", які адзначаецца на славах прыхільнасьцю да беларускае справы гэтымі днямі ізноў падаў інсынуацыю. Згодна вестак „Кур'ера" беларуская вучыцелька Булыга, за тое, што вучыла дзяцей у беларускай школе — зьяўляецца камуністкаю, а яе муж — хадэк (бо здаецца быў прысутны на зьезьдзе беларускіх хадэкаў), таксама камуніст „вывротовец".

Сорамна паны дэмакраты вам за гэтакія качкі!... Вы пісанівай быццам дамагаецеся пашырэньня беларускага школьніцтва, а ўсякую праяву яго падводзіце пад Кадэкс Карны!...

**— Красачкі „краёвасьці".** Некаторыя польскія дзеячы на нашых землях бачачы што сьвядомасьць Беларусаў так пашыралася, што ім ужо няма месца для іх баламуцтваў, рашылі папробаваць яшчэ адзін спосаб!... А ну-ж часам удасца. І дзеля, гэтага ўсе тыя, што ўсякімі спосабамі стараліся абмяжаваць правы Беларусаў, цяпер абвясьцілі „згоду"!

На грунце гэтага паўстала палеміка паміж самымі Палякамі. Гэтая палеміка высьвятліла, што тыя, якія ўзяліся ратаваць наш край зьяўляюцца ў пераважнай большасьці ня тутэйшымі, а наезджымі з самай Польшчы.

Ня мінае гэта і „Кур'ера Віленскага", які таксама, як піша польскі-ж „Дзеньнік Віленскі" ня мае ані воднага сталага супрацоўніка, які паходзіць з нашага краю. Вестка гэтая запярэчана ня была, як відаць дык мы маем справу з палітычным місіянэрствам, якое хоча вывесьці наш народ з роднае старонкі.

Прыкра, што і беларуская газ. „Праца" салідарызуецца з імі!...

**— Страляюць „спраўна і спрытна".** Нядзельныя польскія газэты падаюць вестку аб тым, што ў часе калі Н-скі полк артылеры адбываў баявую стральбу каля Новае-Вілейкі адзін гарматны набой „акуратна" трапіў туды куды ня трэба. „Спраўна і спрытна" трапіў у жылае памешканьне, дзе ўзарваўся зрабіўшы шкоды на 2 тысячы злотых і толькі... З жыхароў ніхто не ўцярпеў, бо акурат нікога ня было ў памешканьні.

## Беларусы ў Чэхаславаччыне.

### З студэнскага жыцьця.

11-га лістападу 1927 году адбыўся гадавы зьезд Аб'еднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў „АБСА". Урачыстае адкрыцьцё адбылося ў салі Вінаградзкага Народнага Дому, на якое былі запрошаны госьці ад усіх студэнскіх арганізацыяў. У склад новаабранага прэзыдыуму „АБСА" ўвайшлі: інж. С. В. Лаўскі, Т. Грыб, інж. С. А. Клімовіч, інж. С. В. Русак і студэнт філёзофіі Ф. Грышкевіч.

## Папраўка.

Цераз карэктарскі недагляд у № 87 „Сял. Нівы" ў вершы Янавіда здарылася прыкрая памылка. Трэці радок з верху надрукавана: „Калі ня трэба мне глядзець", а павінна быць: „Калі ня міла мне глядзець".

---

Дабра і згоды цеплатою.
І жывіць рэчка зноў краіну,
Вакол згуртоўвае расьліну
І зьзяе шчасьцем і красою.
—
Ажывіўся замак хмуры,
Бляск, сьвятло, гарэць агні,
Зіхацяць там вокны, муры,
Зьзяюць вежы ў вышыні.
Парк жыве, гарыць і дыша.
Як каралі на шнурох,
Скрозь дарожак зьзяе-пыша
І калышацца ў агнёх
Срэбра лісьцяў на галінках
Старасьвецкіх ліп, дубоў.
То—маёўка-вечарынка,
То банкет—гульня паноў.
І спакойна, ціха, роўна
Блеск ліюць свой ліхтары
І сплятаюць так чароўна
Сьвятло-цені на кары
Комляў тоўстых, нярухомых,
На галінках, на сукох,
Бы застыў тут весьнік громаў,
Блеск маланак на камлёх.
А ўгары над гэтым бляскам
Зьвісла ноч яшчэ цямней,
А з глыбінаў неба казкай,
Поўнай чараў, ціхай ласкі,
Пазіраў яшчэ ясьней
Гожы месячык няпоўны,
Чуць пачаты баханок,
І яму ноч з хмарак-воўны
Белы выткала вянок.
— Уміраць ім тут ня трэба:
Ім тут рай і ім тут неба,—
Думаў моўчкі дзед Даніла,
Збоку стаўшы ад паноў:—
Што ім той сьвет? ім тут міла,
А памруць, па іх-жа зноў
Будзе пышнае маленьне,
З пыхам гроб іх панясуць;
З раю сьветлага збавеньня,
Як і тут, нас адапхнуць.—
А паны сабе балююць,
П'юць заморскае віно—
Для іх робіцца яно,—
І ім лёкаі слугуюць,
Як тут водзіцца даўно.
Між адвечных жаралістых
І растрэсканых камлёў
Тоўстых клёнаў і дубоў,
Кругом стаўшых, бы маністы,
Стол даўжэразны, аж гнецца
Ад закусак дарагіх,
Там віно шуміць і льлецца,
Мова хмельная вядзецца,
Сьмех паненак маладых,
Разубраных, як у маі
Кветкі тыя на лугох,
Як вясной бярозкі ў гаі,
Як валошкі на палёх.
І якіх убораў толькі
На паненках ня было.
Анталяжыкі ў дзьвё ролькі...
А іх белае чало
Авівалі кудры гожа—
Лён завітых валасоў.
А іх тонкіх галасоў
І музыка зграць ня зможа.
Завушніцы і пярсьцёнкі
Так і зьзяюць і гараць.
Як у восак, стан іх тонкі,
Вочы зорамі глядзяць.
Шчочкі тыя, ну—сунічкі...
Ях, дзяўчаткі-чараўнічкі,
Лепш на вас не пазіраць!
А прамовіць-засьпявае—
Пан шалее малады:
Чорт яго і бацьку знае,
Што з ім робіцца тады!
То прыскочыць, то прыгнецца,
То рукою павядзе,
Плечы ўскіне, засьмяецца,
Як матыль над лямпай ўецца,
Як над краскай чмель гудзе.
— Гэй, панове, ўгурэн шклянкі!
Піем здрове свэй коханкі.—
Песьню пан якісь заводзіць,
Драбізіць, бы той казёл,
І вачамі ўсіх абводзіць,
Чаркай стукае аб стол.
— Віват, ксёнжа наш вяльможны!—
І ўстаюць ураз паны;
Момант—чаркі ўсе парожны,
Князя гушкаюць яны.
Тут музыкі—лозьнік гібкі—
Падымаюць, хто клярнэт,
Хто басэтлю, а хто скрыпкі,
Каб аздобіць той банкет.
Як утнулі-ж, як уцялі,
З дысканта, а хто з баса,
Аж, здаецца, задрыжалі
Лісьці, дзерава краса.
Кіраўнік на часьці рвецца,
Пан Галыга—адзін рух,
То да скрыпак ён памкнецца,
То заверціцца вакруг.
Ходзяць рукі, як пружыны,
Адбівае тахт нага,
Лоб зьбіраецца ў маршчыны,
І сам гнецца, як дуга.
— А дзе хлоп, што ладна грае?
Гэй, музыку завалаць!—
Падгуляўшы князь гукае:—
Ўраз хлапака мне падаць!—
Сьціхлі госьці і музыкі.
З іх застылай грамады
Праціскаецца на клікі
Наш музыка малады.
Вышаў ён і пакланіўся,
Кінуў погляд на паноў.
Эх, і дзе-ж ён апыніўся!
Пых такі яму й ня сьніўся,
Колькі блеску і агнёў!
— Ну, зайграй-жа нам, каханы.—
Князь крутнуў свой чорны вус
І на белы той абрус
Ставіць локаць падзіманы.
Граў Сымон ужо ня мала,
А чаго-ж яго рука
Так парыўна задрыжала
Пад узьлётамі смыка?
О, каб мог агнём пякучым
Ён ім душы апаліць,
Болем вострым, не гаючым
Думкі іх усе авіць!
Каб адчулі крыж няволі,
Заняпаласьць прасьцяка,
Зыркі сьвіст вятроў у полі
І лёс гэты бядака!
Ён зайграў, і струны горка
Адклікаліся гулі.
Аддавала іх гаворка
Гневам, крыўдаю зямлі...
Скончыў граць ён—паны ў ладкі
Запляскалі, як адзін.
Ма быць панскія парадкі
Вымагаюць такі чын.
Вус у князя зварухнуўся.
— А скажы, каханы мой:
Што ты вcase ваказаць мануўся:
Думку, песьню ці настрой?
— Я скажу, вяльможны княжа.—
І пачаў Сымонка так:
„Хто пра гора тое скажа?
Дзень памрэ, і ночка зьляжа,
Чорны ўзьдзеўшы андарак.
А дуб будзе смуткаваці,
Бо няма яго дзіцяці,
Бо такая доля іх.

(Далей будзе.)

